Год выдавецтва 1. ЦАНА НУМАРУ 30 гр

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКІ і ПАЛІТЫЧНЫ, ДВУТЫДНЁВІК.

№ 4 | 15 ЛІСТАПАДА. | 1927 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Людвісарская вуліца № 1.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА да канца года 1 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыта.

## Першае заданьне.

(З перадвыбарных развbooжаньняў).

Сойм і Сэнат дажываюць свае астатнія дні, пасьля якіх павінна пачацца „перадвыбарная гарачка". Перыод гэтай неабходнай у парлямэнтарных краёх „хваробы" у Польшчы, паводле яе Канстытупыі, павінен закончыцца ў працягу 90 дзён. Гэта значыц, што ў канцы лютага 1928 года павінны быць ужо створаны абедзьве „высокія палаты".

Па гэтай прычыне пачынаюць ужо патроху варашыцца палітычныя партыі ўсіх напрамкаў і ўсіх нацыянальнасьцяў; сярод іх можна заўважыць нейкі ўнутраны рух, ці „перестроеніе частей", як бы падгатоўка да новага неабходнага палітычнага боя. У газэтах польскіх, беларускіх і украінскіх, то там, то тут зьмешчаюцца артыкулы, якія патроху выяўляюць ці тое, ці іншае сваё становішча да справы выбараў, ці стараюцца раскрыць і выявіць становішча іншых груп і партыяў.

Выявім і мы свой погляд на гэтую справу.

У папярэдніх нумарох нашай часопісі мы ўжо гаварылі шмат аб неабходнасьці адзінага нацыянальнага фронту. З гэтага становішча мы ня зойдзем і далей у сваей працы і заусёды будзем бараніць гэтую ідэю.

Але ў даным разе мы маем на ўвазе ня столькі ідэёвую, тэорэтычную старану справы, сколькі практычныя яе падставы, якія павінны умацовывацца на фактах. А фактам сталася тое, што ня гледзячы на ўсе змаганьні польскай правіцы, **„ардынацыя выборча“**, г. ё. той статут, на падставе якога будуць правадзіцца выбары, асталася тая самая, што была і ў 1922 годзе. Ардынацыяй выборчай ужо наўперад акрэсьліваецца ўвесь характар будучых выбараў, увесь іх **мэханізм**, уся **тэхнічная старана** справы. Дзеля гэтага ясна, што, паміма ўсіх іншых прычынаў, на выбарах перш за ўсё выграе той, хто лепш прыстасуецца, прыспасобіцца да гэтай ардынацыі.

Тым, хто прыймаў бліжэйшае ўчасьце у папярэдніх выбарах, ці хто наагул азнаёміўся з ардынацыяй выборчай, добра ведама, што яна уложана польскай уставадаўчай уладай так і з тым разрахункам (мэтай), каб загварантаваць найбольшы пасьпех **для найвялікшых партыяў**. На карысьць найвялікшых партыяў ідуць усе „хвасты“ і „рэшткі“; толькі тыя партыі маюць права на „лісту панствовую“, якія правядуць сваіх прадстаўнікоў ня менш, як **ад шасьцех вакругоў**. Па гэтай ардынацыі наўмысьльне зьмешаны, гдзе толькі можна, ў адзін вокруг месцовасьці з насяленьнем чыста беларускім з месцовасьцямі польскімі, (Бельшчына з Астроўшчынай, Горадзеншчына з Сувалшчынай і г.д.) У сваім часе мы падробна разгледзім гэту ардынацыю. А тут успамінаем аб некаторых яе старанах дзеля таго толькі, каб паказаць, што ўсё у ей разлічана на тое, **каб перашкаджаць розным меншасьцям злучацца ў больш-менш вялікія групы**.

Практычны вывад адсюль ясны: трэба зарганізавацца так, каб найбольш **паралізаваць гэтыя нявыгадныя для нас стораны ардынацыі**, г. ё. **зарганізавацца па магчымасьці ў найвялікшыя групы**.

У папярэдніх выбарах, як ведама, усе меньшасьці (беларусы, украінцы, расейцы, жыды, немцы) злучыліся ў адзін выбарны блёк, дзякуючы чаму беларусы і маглі правясьці ў Сойм 14 асоб, ня гледзючы на тое, што самі беларусы па малай сьведамасьці аддалі шмат галасоў, польскаму „Вызваленьню“ і P. P. S.

Ці будзе такі блёк, ці ня будзе, пакуль што гадаць трудна і трохі рана. Можа, напрыклад, будзе блёк ня поўны: блёк славянскіх меньшасьцяў. А можа яшчэ паўнейшы, чым у тым разе, бо да блёку могуць далучыцца галіцкія украінцы і літоўцы, якія ў той час байкатавалі выбары. Але што для нас бязумоўна ясна, дык гэта тое, што перадусім **беларусы самі павінны ўперад за ўсіх аб'яднацца ў адзіны беларускі нацыанальны фронт**.

Неабходнасьць гэтага чыну так ясна і так зразумела, што няма чаго яе і даказываць! Калі агульны меньшасьцёвы блёк будзе, то гэта патрэбна дзеля таго, каб у гэтым блёку мы прадстаўлялі салідную сілу, бо толькі ў такім разе мы можам выгаварыць для сябе найбольшыя выгады, — бо з большай сілай больш лічуцца.

Калі-ж гэтага агульнага блёку ня будзе, то наш беларускі блёк патрэбны тым больш, бо тады мы самі аднымі сваімі сіламі павінны сабе здабыць пэўную лічбу беларускіх мейсцаў у Сойме і Сэнаце адпаведную колькасьці і павазе бела-

рускага народу, дзеля чаго аб'еднаньне нашае зусім з'яўляецца неабходным.

Гэта аб'яднаньне беларусоў у адзіны выбарчы фронт мы і ўважаем першым нашам палітычным перадвыбарным заданьнем.

**В. Б.**

# Польскі Сойм і Беларускія паслы.

3-га лістапада дэкрэтам п. Прэзыдэнта пасьля 8 мінутнае „цяжкае працы" зачынена бюджэтная сэсыя Сойму да 28 лістапада, г. ё. да тэрміну выгашэньня пасольскіх мандатаў гэнага Сойму. Такім спосабам Сойм памёр амаль што ня натуральнай сьмерцю: толькі на старасьць сваіх гадоў яму давялось у сваім старчаскім жыцьцю перанясьці непрыемнасьці, якія часта трапляецца цярпець ад сваіх радзічоў старым, няздольным да працы нахлебнікам. Ідучы за добрай лацінскай прыказкай: de mortuis aut bene, aut nihil—адзывацца аб памёршых або добра, або зусім маўчаць,—можна была-б напісаць толькі малеьнкую абвестку аб яго сьмерці і на гэтым скончыць. Але Сойм—гэта ня звычайная фізычная асоба: гэта інстытуцыя, каторая па сваей сьмерці ў працягу 90 дзён, як феникс з попялу, павінна адрадзіцца ўзноў. З гэтага пункту гледжаньня, працоўны народ павінен крытычна аднясьціся да пяцігадавой працы памёршага Сойму, павінен сам ацаніць гэтую яго працу і вынясьці свой аканчальны прыгавар, каб у наступных выбарах ня паўтарыць той абмылкі, якая здарылася пры выбарах у гэты Сойм.

Найперш трэба сказаць, што самы склад Сойму, амаль што не на палову падзяліўшыся на два абозы,--на правіцу і лявіцу, па самай істоце сваіх палітычных поглядаў і сацыяльных імкненьняў, разбежных да проціўлежнасьці, ня мог выпрацаваць сталага адналітага палітычнага напрамку сваей працы. Гэты напрамак амаль што ня месяц хіліўся то ў правую, то ў левую старонку, у залежнасьці ад чаго такім-жа калейдаскапічным тэмпам зьмяняліся міністэрства, каторыя ў дзейснасьці з адной прычыны свайго кароткага істнаваньня ня маглі мець і ня мелі ўплыву на дзяржаўнае палітычнае жыцьцё.

Гэтая атсутнасьць сталага напрамку палітычнае працы Сойму падтрымлівалась яшчэ тым, што гэныя два абозы, правіца і лявіца, у свой чарод дзяліліся на вельмі значную лічбу партыяў (усіх партыяў у Сойме больш 20), са сваімі асобнымі імкненьнямі, каторым часта нямагчыма было даць адзін напрамак у вырашэньні таго, ці іншага пытаньня. Часта пры разьвязаньні некаторых пытаньняў, лявейшыя партыі правіцы галасавалі з лявіцай і наадварот,—правейшыя ўгрупаваньні лявіцы падтрымоўлівалі правіцу. Калі ўзяць пад увагу часта меўшы мейсца разлом ўнутры самых партыяў і стварэньне новых партыяў, каторыя сваім пераходам у праціўны абоз падмацнялі то правіцу, то лявіцу, дык тагды стане ясным, дзеля чаго праца гэтага Сойму на працягу ўсяго яго істнаваньня ня адражнялася прадуктыўнасьцю.

Надта разнародныя і ў сваіх палітычных поглядах і сацыяльных імкненьнях, польскія соймавыя партыі праяўлялі аднак вялікую адналітасьць у пытаньнях, датыкаючых нацыянальных меньшасьцяў, асабліва да меньшасьцяў славянскіх, — Беларусаў і Украінцаў. Калі паўставалі пытаньні, датыкаючыя гэтых меньшасьцяў, польскія партыі як бы забывалі свае сацыяльныя разбежнасьці і адзіным супольным фронтам ішлі проціўменьшасьцёвых дамаганьняў. Гэта адналітасьць польскіх партыяў у варожасьці да ўсялякіх праяваў нацыянальнага адраджэнскага руху мень-

шасьцяў стварыла вельмі цяжкія варункі для працы ў Сойме і беларускіх прадстаўнікоў. Галасамі гэтай польскай большасьці гамавалася кожнае змаганьне беларускіх прадстаўнікоў за абарону правоў беларускага народу, што рабіла нямагчымым творчую ўстававадаўчую працу на карысьць беларускага народу, немагчымым змаганьне за яго свабоду, за нацыянальную асьвету і эканамічнае адраджэньне Замест гэтага, Польскі Сойм, пры дзейнай помачы польскае лявіцы, ня ўзіраючы на пратэсты беларускіх прадстаўнікоў, праводзіў шкодныя для беларускага народу пастановы аб асадніцтве, удзеляў крэдыты на паланізацыю беларускага краю і г. д. А калі і правадзіліся законы, каторыя маглі-б быць карыснымі для нацыянальнай справы Беларусаў, як напрыклад, закон аб нацыянальнай школе, то рабілася гэта выключна для заграніцы, як гавораць „на вываз", каб гэтым паказаць заграні́чным дзяржавам, як добра жывецца ў Польшчы нацыянальным меньшасьцям правадзілі, з задняй думкай ніколі ня ўводзіць іх у жыцьцё беларускага народу. Што пазаставалась рабіць беларускім прадстаўніком у Сойме пры такой сытуацыі? Толькі дэманстраваць з соймавай трыбуны перад усім сьветам аб гэтых адносінах і Польскага Сойму і Польскага Ўраду да беларускага народу і яго правоў, так прыгожа акрэсьляных у Польскай Канстытуцыі. Другою іх задачаю было пашыраць нацыянальную і палітычную сьведамасьць беларускага народу і гэтым шляхам вясьці барацьбу за лепшую будучыню свайго народу. Ня лёгкая гэта была барацьба. Больш паловы беларускіх прадстаўнікоў была выбіта з радоў гэтых барацьбітоў. Хто з іх апынуўся ў турме, а хто быў змушаны пазаставіць межы Польшчы.

Але-ж гэта іх праца ня прайшла дарма. Усім ведама, як пашырыўся беларускі нацыянальны рух і беларуская сьведамасьць за гэтыя 5 гадоў. Калі ў часе выбараў у апошні Сойм неякія лявіцовыя польскія партыі, як Вызваленьне, П. П. С., маглі тагды адурманіць нейкую частку беларускага народу і прайсьці яго галасамі ў характэры яго прадстаўнікоў у Сойм, дык цяпер кожны беларус вадае, як яны працавалі на яго „карысьць", галасуючы за крэдыты на асадніцтва ў мэтах палянізацыі беларускага народу. Гэтая нацыянальная і палітычная сьведамасьць беларускага народу ў большай часьці, явілася вынікам самаахвярнай працы прадстаўнікоў беларускага народу.

**К. Калішук.**

# Польская дзяржаўная пазыка.

У апошнім нумары нашай часопісі мы паведамлялі сваіх чытачоў аб грашавой пазычцы, атрыманай Польскім урадам ад прадстаўнікоў амэрыканскіх банкаў. Сума пазыкі дасягае 72 мільёнаў даляраў, (з папярэднімі пазыкамі ўся сума Польскага дзяржаўнага доўгу цяпер вырасла да вялізарнае лічбы каля 500 мільёнаў даляраў. Гэта выносіць каля 16 даляраў на кожнага польскага грамадзяніна). Самыя перагаворы аб пазычцы, цягнуўшыяся аж надта доўга і амаль што ня сарваўшыяся, сьведчаць даволі яскрава аб тым, што варункі на якіх атрымала Польшча грошы, павінны быць для яе даволі няпрыемнымі.

Варункі гэтыя можна падзяліць на тры рубрыкі: варункі чыста фінансавыя, фінансава-эканамічныя і эканамічна-палітычныя.

Да першых адносяцца варункі, датыкаючыяся тэрміну і працэнтаў пазыкі.

Пазыка атрымана на 20-ці гадовы тэрмін па 7 працэнтаў у год. З першага погляду здаецца, што працэнт, калі разважаць з пункту гледжаньня цяперашніх часоў, ня надта цяжкі. Прыват-

ныя асобы плацяць па 10 і па 12 працэнтаў. Але-ж патрэбна тут памятаць, што гэта пазыка дзяржаўная, доўгатэрміновая. Польшча павінна будзе ў працягу 20-ці гадоў плаціць па 7 працэнтаў за гэту пазыку. А за гэты час фінансавыя варункі для заключэньня пазыкі могуць зьмяніцца значна ў лепшы бок. За прыкладамі далёка хадзіць ня патрэбна. На нашых вачох што-годна зьменяецца пазычкавы працэнт. Калі пару гадоў таму з вялікай ахвотай плацілі па 3 працэнты ў месяц і больш — гэта знача — па 36 працэнтаў у год, — дык цяпер ніхто ня хоча плаціць і трэцяе часткі гэтага працэнту. А чым далей, — як толькі больш будзе ўваходзіць у нармальную калею міравое эканамічнае жыцьцё,— працэнты будуць значна зніжацца і могуць дайсьці да перадваеннае нормы 3½—4 працэнты. Ня гледзячы на гэта, Польшча і тагды павінна будзе плаціць высокі 7 прац. пазычковы налог. Калі прыняць пад увагу, што ў прадваеныя часы пазьнешнім пазыкам плацілі ў большасьці ад 2 да 4 працэнтаў, дык тады стане яшчэ ясьней, на якія цяжкія варункі згадзіўся дзяржаўны ўрад пры заключэньні пазычковае ўмовы.

Да чыста фінансавых варункаў патрэба аднесьці і так званае пытаньне аб эмісіоным курсе. Намінальная вартасьць пазыкавых аблігацыяў, паводле ўмовы, акрэсьлена ў 103 даляры, гэта значыць, што калі прыдзецца Польшчы выкупляць гэтыя аблігацыі, дык тагды яна будзе плаціць за кожную з іх па 103 даляры, а эмісіонная цана — толькі 92 даляры, г. ё. польскі ўрад за кожную з гэтых аблігацыяў атрымаў толькі па 92 даляры. Такім спосаб банкіры на кожнай аблігацыі адразу зарабляюць па 11 даляраў. Гэта, як гавораць, варункі чыста фінансаыя. За імі ідзе цэлы шэраг варункаў фінансава-эканамічных, каторыя маюць на мэце гварантаваць банкірам мажлівасьць сьцягнуць у сваім часе пазычаныя грошы са свайго крэдытаора.

Да гэтага шэрагу варункаў можна залічыць абавязак ураду ня рабіць у працягу трох гадоў унутранае або заграпічнае доўгатэрміновае пазыкі для буджэтных мэтаў, рэфармаваць статут Польскага Банку, ня выпускаць папяровых грошаў і г. д. Гэтае апошняе права надаецца выключна Польскаму Банку, у склад Надзіраючага Саветукатарага, паводле ўмовы, уваходзіць прадстаўнік консорцыуму, пазычыўшага грошы, каторы фактычна і бярэ ў свае рукі кіраваньне жыцьцём цэлага банку. Варунак аб рэформе статуту Польскага Банку, унесены са стараны кансорцыуму, ня можа мець нічога іншага на мэце, як дабіцца ўплыву на дзяржаўна-эканамічную палітыку Польшчы.

Аб гэтым-жа яшчэ больш сьведчыць прыняцьце польскім урадам вызначанага праз кансорцыум сваім прадстаўніком амэрыканскага сэкрэтара міністэрства фінансаў Шарля Дзевея на **пасаду фінансавага радцы**, які адначасна з'яўляецца і сябром Надзіраючае Рады Польскага Банку.

Аднак пазычковая ўмова ня абмяжавалася толькі фінансава-эканамічнымі уплывамі на жыцьце дзяржавы, але перакінула ўплыў банкіраў і на жыцьцё эканамічна-палітычнае. Цэлы шэраг варункаў, вымагаючых: 1) падвышкі дзяржаўных даходаў для пакрыцьця расходаў на пазыку, 2) прытрымоўваньня сыстэмы месяцавых буджэтаў, 3) абавязкавае рэформы падаткавае сыстэмы, а асабліва, 4) заборона рабіць доўгатэрміновыя пазыкі банкам, самаўрадам і прыватным прадпрыемствам, аж надта сьведчыць аб тым, што гэтыя варункі далей выходзяць за межы чыста эканамічнага жыцьця і глыбока пускаюць каранкі ў жыцьцё палітычнае.

Такім спосабам Польшча, прыняўшы гэтыя варункі, ня толькі падпарадкуе сваё фінансава-эканамічнае жыцьцё амэрыканскім банкірам, фактычна адмаўляецца ад дзяржаўна-эканамічнай незалежнасьці, але і падпадае іхнім уплывам і з боку палітычнага. Гэта стане яшчэ ясьней, калі ўзяць пад увагу тое, што жыцьцё дзяржаўнае палітычнае і эканамічнае знаходзіцца ў самай цеснай узаемнай сувязі.

Некалі, ведамы расейскі фінансіст Вітгэ гаварыў: „дайце мне адпаведную дзяржаўную палітыку і я вам упарадкую фінансы". Але з такім-жа правам можна сказаць і наадварот. У чыіх руках знаходзіцца фінансавае жыцьцё дзяржавы, гэты фактычна дзержыць у сваіх руках і палітычныя лейцы. Паняволі ўстае пытаньне: дзеля якіх мэтаў польскі ўрад згадзіўся на пазыку ў такіх вельмі цяжкіх варунках. Пера-

дусім патрэбна адзначыць, што галоўнаю мэтай гэтай дзяржаўнае пазыкі зьяўляецца стабілізацыя польскае валюты.

Даўгі Польшчы, прагрэсыўна штогодна павялічываючыся, дзейсна гразяць хістаньнем валюты. Цьвёрдая валюта Польшчы, уведзеная ў 1924 г. у жыцьцё, ужо адзін раз вынясла гэны крызыс у часе „санацыйнага“ перавароту, калі злоты ўпаў больш як да палавіннае сваей вартасьці. Часовы маральны ўплыў новага ўраду і ангельская забастоўка, дапамогшая транзыту польскага каменнага вугля, на пэўны час устрымала гэную катастрофу. Але ўсе-ж гэтыя часовыявыпадкавыя прычыны ня зьмянілі самае сутнасьці дзяржаўнага эканамічнага ўкладу і яго падставаў, з гэтага яны маглі мець і мелі толькі часовае значэньне. Як толькі усунуліся гэтыя прычыны, дык ізноў паўстала пагроза валютнага крызысу. Папераджаючы гэта, урад пайшоў старым шляхам—„зашываньня старых прарэхаў" пазыковы грашыма. Але гэта ня зьменіць палажэньня, а толькі можа адцягнуць на больш ці меншы час валютны крызыс, бо грунтавая яго прычына ляжыць ня ў колькасьці банкавага валютнага абязьпячаньня, а ў палітынна-эканамічных варунках дзяржаўнага жыцьця. Бедная прыроднымі багацьцямі, некалькі разоў зруйнаваная вайной, Польшча ўсё-ж такі імкнецца адыгрываць у сусьветнай палітыцы ролю першараднае дзяржавы.

Гэтае вялікадзяржаўнае імкненьне Польшчы вымагае ад яе ўтрымоўліваньня вялізарнае вайсковае арміі, тым болей, што палітычныя адносіны Польшчы з сеседзямі могуць падтрымоўвацца толькі напружанай палітыкай „узброенага пакою“. З другога боку некарыснае геаграфічнае палажэньне дзяржаўных граніц на ўсім сваім працягу адкрытых і надта разцягнутых, яшчэ балей павялічывае гэтую патрэбу. Утрыманьне назвычайна вялікае арміі паядае болей як 30°/o усяго дзяржаўнага бюджэту, што безумоўна лажыцца надта вялікім цяжарам на эканамічнае жыцьцё народу і эканамічна яго руйнуе. Калі да гэтага дадаць бюджэт міністэрства ўнутранных спаў, утрымоўліваючы такую-ж вялізарную армію паліцыі дзеля падтрыманьня ўнутраньняга парадку, дык тады адразу стане ясным, што галаўная частка бюджэту ідзе на дзяржаўны мілітарызм, які зьяўляецца вынікам палітыкі вялікадзяржаўнасьці. На эканамічнае адраджэньне асыгнуюцца сумы далёка ня старчаючыя на тое, каб яна магла ісьці нармальным тэмпам. Надта вялікі развой вялікадзяржаўнасьці на рахунак эканамічнага жыцьця будзе заўсёгды галоўнай прычынай, руйнуючай гэта апошняе; няўпарадкаванае эканамічнае жыцьцё у свой чарод будзе руйнаваць фінансавую сыстэму. Толькі адмова ад некарыснай палітыкі вялікадзяржаўнасьці і перабудова на новых падвалінах эканамічнага жыцьця народу можа развязаць той гордзіеў вузел, каторы спляло палітычнае жыцьцё Польшчы.

На жаль і апошняя дзяржаўная пазыка, атрыманая на такіх цяжкіх варунках, вызначаецца ня на эканамічнае адраджэньне народу. Толькі незначная частка асыгнуецца на гэтыя мэты. З вялікай доляй праўдабадобнасьці можна сказаць, што яна ня дасягне да „крэсаў“. Можна чакаць, што яна адаб'ецца ў нашым беларускім жыцьці толькі адваротнай старaной, — павялічэньнем падаткавага цяжару.

**Пр. Л. Голад.**

# Чырвоная рабіна.

(Замест фэльетона).

„На руйнуючымся праваслаўным саборы ў Беластоку выраспа рабіна, якая чырванела сваімі гроздамі каля галоўнага купала“. (карэспандэнцыя Аргуса ў № 3 „Правасл. Бел.“).

Калі чытаў я у папярэднім нумары „Праваслаўнай Беларусі“ гэтую карэспандэнцыю Аргуса аб Беластоцкім саборы, цяжка рэзанула мяне па сэрцу гэтае мейсца. Міма волі пачулася у ім нешта сымвалічнае: чырвоная рабіна здавалася мне нібы чырвоным сьцягам, які вырас на мейсцу крыжа...

Ці ня ёсьць гэта запраўды яскра-

вай ілюстрацыяй усей той „крэсавай“ і „меньшасьцявай“ палітыкі, якая у нас тварылася увесь час ад самага паўстаньня Польшчы.

Нашы палітыкі часта дужа дзівяцца таму, адкуль гэта бярэцца такое „пачэрваненьне“ масавых настрояў на нашых „крэсах“. Вось гэта чырвоная рабіна і з'яўляецца як бы выясьненьнем усяго гэтага працесу.

Адкуль і гдзе вырасла чырвоная рабіна? Вырасла адтаго шчо нейкая злая воля паўмысьлі руйнавала царкву. Суверэнная палітычнае істнаваньне Польшчы пачалося з адбіраньня і разбураньня цэркваў і адыманьня цэркоўнай маемасьці, з пагвалчэньня канстытуцыі, „гварантуючай“ свабоду царквы, з перасьледаваньня таго праваслаўнага духавенства, якое стаяла бліжэй да народа, з забароны выкладаньня рэлігіі ў роднай мове і г. д. А галоўнае, гэта ўмешацельства ўва ўнутранае жыцьцё царквы, стварэньня з вышэйшага праваслаўнага духавенства „агентаў паньствовых“ (гл. прамовы ў Сэнаце сэнатара Багдановіча), што самую рэлігію ператварала ў нейкае „казенное учрежденіе“.

„Хадзілі прасілі“, піша Аргус,—абецалі, а як дахадзіла да самой справы, дык ні шагу“. Справа аставалася без рэзультату... без рэзультату наружнага, але з вялікім рэзультатам унутраньнім. Кожны раз пасьля такога хаджэньня і прашэньня аб самым законным, і самым патрэбным, аб самым сьвятым, калі даставалі адмову, у душах гэтых веруючых людзей тварыліся, як і ў тым занедбаным саборы, нейкія трэшчыны, ў якія, Бог ведае адкуль, якім ветрам, ці заходнім, ці ўсходнім, занасіліся розныя насеньня і выраста̀лі ў душах гэтых людзей замест веры ў Бога ў сьвятасьць права і падстаў маральных, чарвоныя думкі і настроі.

Так вырастае чырвоная рабіна на мейсцу Божага дому.

*В. Васілевіч.*

**Ад Рэдакцыі.** З мэтай уцешыць аўтара артыкулу дададзем, што на саборы апрача чырвонай рабіны вырасьлі і **белыя бярозкі,** — сымвал (будзем і тут сымвалічнымі) нашага беларускага нацыянальнага руху. Усякі ўціск, ці крыўда павялічываюць гэты рух і напамінаюць, што кожны народ павінен сваяго адраджэньня шукаць у сваіх уласных сілах. Будзем арганізаваць свае нацыянальныя сілы, — тады будуць і царквы і саборы.

У час, калі стацьця п. Васілевіча ўжо паступіла ў рэдакцыю, мы атрымалі ведамасьці, што **ўрад прызнаў сабор сваёй уласнасьцю.**

Такое вырашэньне справы для нас была дужа неспадзеваным пасьля тых дакумэнтальных даных аб будоўлі Сабора на кошт праваслаўнага грамадзянства, якія некаторыя сябры рэдакцыі відзелі сваімі ўласнымі вачамі.

У пастанове свае̇й урад не адкідывае магчымасьці аддачы сабору ў карыстаньне праваслаўных, але затрудна праваслаўным траціць срэдствы на яго рэмонт і утрыманьня бяз той пэўнасьці, што ён і на далей астанецца у руках праваслаўных... Усе-ж такі, мы думаем, праваслаўнаму грамадзянству нельга адмаўляцца ад прыняцьця сабору ў сваё карыстаньне, а з поўнай верай, што праўда пераможа, брацца за сьвятую працу.

## Архіерейская турма.

Недалёка ад г. Ковеля ў 10 вярстах ад ст. Несухаіжэ знаходзіцца праваслаўны Мелецкі манастыр. Калісь гэта, трэба думаць, была досыць прыгожая і багатая „обітель“, бо і дагэтуль яшчэ асталіся нямалыя манастырскія будынкі, дзьве царквы, даволі вялікі каля іх сад. Цяпер усё выглядае дужа невесела. Самая мястэчка, каля якога месьціцца манастыр, спалена да тла нейкай бандай у часы рэвалюцыі і межусобнай вайны. Манастыр хоць і ўцалеў, але дайшоў да значнага разарэньня. У адным з уцалеўшых будынкаў памешчаецца польская паўшэхная школа, у галоўным знаходзяцца кельлі для некалькіх манахаў

і паслушнікаў, па вопратцы часта падобных да самых бедных жабракоў.

У аднэй з гэтых кельляў амаль што ўжо ня **шэсьць гадоў** сядзіць архіепіскап Пінскі і Навагрудскі Панцелейман. Засаджаны ён туды па просьбе пакойнага мітрапаліта Георгія за тое, што ў студні месяцы 1922 г. адмовіўся падпісаць створаны паміж м. Георгіем і Ўрадам concordat (дагавор). Не згадзіўся ён на гэта за тое, што палажэньне праваслаўнай царквы ў гэтым канкардаце акрэсьлівалася зусім ня адпаведна канстытуцыі, што ўжо ў гэтым канкардаце неканавічна правадзілася аўтокефалія, што гэта зроблена было паміма сабору і паміма волі праваслаўнага народу, які пасьля некалькі разоў пратэставаў на розных царкоўных з'ездах і сабраньнях проціў так званых „tymczasowych przepisów", прадстаўляючых сабой той самы канкардат, уведзены адміністратыўным парадкам. Пасьля гэтага арх. Панцелейману не пазволілі навэт з'езьдзіць дамоў, а па просьбе м. Георгія, пад арэштам адвязьлі проста ў Мелецкі манастыр.

За гэтыя шесьць гадоў мне некалькі разоў здарылася пабываць у гэтым манастыры і бачыць тую абстаноўку, у якой жыве ўладыка Пантелейман. Не магу забыць першага ўражаньня! Проста з халоднага калідора дзьверы вядуць у маленечкі пакойчык, даўжыні шагоў шэсьць, шырыні—тры. Гэта і ёсьць „кватэра" уладыкі. Падвойных вакон няма, на сьценах сьляды ад дажджа, які прасачываецца скрозь сьтены. Ложка, зьбітае з простых нячышчаных дошак, такі-ж стол, зьбітая з палак, ці жэрдзяў канапка, прадзюраўленае крэсла,—вось і ўся абстаноўка! З вакна дзьме сьцюдзёны асеньні вецер. Уладыка цяжка мучыўся з зубамі, а паехаць у Ковель палячыцца нямеў права, бо яму трэба было што два дні зьяўляцца і мэльдавацца ў паліцэйскім пастарунку, і ня меў ён права без дазволу ўлады выежджаць з манастыра, а дазволу не давалі. Манастырская „братія", пачынаючы з настаяцеля манастыра, рада была ў кожным выпадку чым небудзь дасадзіць „апальнаму" архіерэю.

Ежа ў манастыры такая, ад якой напэўна зрабілі-б у знак пратэсту галадоўку ў любой турме ў Польшчы. Для „высокага госьця", аднак пасьля хлопатаў у настаяцеля паслушнік у нязвычайна брудных лахмоцьцях прынес такі самы брудны самавар. Звычайна ўладыка (якому ўжо пад 70 гадоў) сам павінен з чайнічкам рана бегаць па калідору, каб выпрасіць на кухні кіпятку і выпіць яго з сахарынай.

Гэта ўсе я відзеў гады чатыры таму назад. З тых часоў палажэньне ўладыкі троху палепшала. Прыяцелі уладыкі хлапаталі за яго ў міністэрстве вызнань і ў мітрапаліта, дзякуючы чаму сынод „расшчэдрыўся" і асыгнаваў уладыке пэнсыю ўперад 50 зл., а пасьля нават сто злотых у месяц, але-ж фактычна жыцьцё уладыкі палепшылася мала, бо свае грошы ён у значнай часьці аддае бедным, у пакойчыку хоць і ўставілі падвойныя вокны, як і ўперад сьцюдзена, бо печкі ў ім няма і „абаграваецда" ён шчыткам з суседняй кельлі, якую топяць сырымі дравамі, вырубленымі ў манастырскім садзе. (Зямля манастырская аддадзена пад асаднікаў). Гады два таму назад адна полька-каталічка, выпадкова быўшая у Мельцах, якой друзья уладыкі даручылі завезьці яму пасылку, была ў яго кельлі. Яна бяз сьлёз не магла расказываць аб тым, што відзела, бо не магла сабе нават і прадставіць, каб праваслаўнага ўладыку маглі трымаць ні за што ні пра што, толькі за яго рэлігійныя пераконаньні ў гэтакіх варунках.

Але-ж гэта полька-каталічка! А вось паслухайце, што хапіла „совесьці" напісаць аб уладыке Пантелеймоне у афіцыальна-праваслаўным органе, выданым з благаславеньня мітрапаліта: „Не духоўная власьць (а хто-ж?) устроила ему пребываніе въ Мѣлецкомъ монастырѣ, да и не томится онъ въ заточеніи, ибо пользуется архіерейскимъ почетомъ и получаетъ, при всемъ готовомъ, достаточное количество пѣнязей". („Воскресное Чтеніе" № 2, 1927 г.).

Калі правініўся „свой" „аўтокефальны" уладыка (Антоні) дык знайшлося і добрае памешканьне ў некалькі пакояў у добрым манастыры і 500 зл. пэнсыі.

Бог з імі! Сьмешна і папракаць тых, хто ўсё роўна ня ўчуе, бо як сказаў прарок Ісаія: „бачучы ня бачаць і чуючы ня чуюць". Не да іх трэба зварачывацца, а да тых праваслаўных, каторыя так скора забылі аб сваем уладыке,—ці забылі,

ці можа няведаюць аб тым, у якіх абставінах ён жыве, ці паверылі таму, што піша „Воскресное Чтеніе“.

На двары ўжо зіма. Уладыцы ўжо пад 70 гадоў. Якія пэрспэктывы могуць прадстаўляцца яму ў тым манастыры, гдзе ў прошлым годзе, немаль што ня з голаду і ад недасмотру памёр сасланы туды на пакуту адзін старычок сьвяшчэннік, які па некалькі гадзін павінен быў крычаць, пакуль хто не пачуе і не прынясе яму крышку сцюдзенай вады!

У такіх варунках жыве ідэйны, нязлобны, нікаму нічога дрэннага не зрабіўшы чалавек, — архіепіскап Пінскі і Наваградскі Панцелеймон...

**В. Багдановіч.**

# Віленская праваслаўная сэмінарыя.

Віленская праваслаўная сэмінарыя да вайны называлася Літоўскай Духоўнай Сэмінарыяй, бо была адна на цэлых тры літоўскіх губэрніі: Віленскую, Горадзеньскую і Ковенскую.

У часы эвакуацыі у 1915г. сэмінарыя была вывезена у Разань, гдзе і праіснавала да самай бальшэвіцкай рэволюцыі, пасьля якой ужо не магла адчыніцца як духоўная панова. З перадваеннай карпарацыі адміністрацыі і вучыцялёў сэмінарыі вярнуліся у Вільню толькі трое: інспектар сэмінарыі В.В Багдановіч і двое вучыцялёў Ул. Кл. Нядзельскі і В.А. Прэдцечаўскі. Уся маемасьць сэмінарыі, якая застался у Вільні, згінула тут за часы нямецкай аккупацыі, а тоя, што вывезена было у Расею пры эвакуацыі (частка архіву), засталося у Разані. Трудамі вярнуўшыхся з Расеі вышэй пералічаных асоб у восень 1919 г.у Вільні ўзноўлены былі заняткі ў сэмінарыі.С пачатку ў працягу 2-х гадоў (19—20) працавалі толькі две старшых багаслоўскіх кл., а з 1920 г.,калі да Польшчы далучыліся большасьць зямель былых Літоўскай, Горадзенскай і часткі Менскай епархіі, сэмінарыя адчыніла заняткі у-ва усіх клясах, далучыўшы (згодна с пастановай Маскоўскага Сабору 1917—18 г. ) да сэмінарыі і 4 класы духоўных вучылішчаў. Пры гэтым у праграму яе уведзены былі мовы [польская (ад 3 кл.) і беларуская (ува ўсіх клясах), на якую мелася перайсьці паступова і самае выкладаньне прэдметаў. Трэба аддаць справядлівасьць, што ўрад польскі адносіўся тагды зусім прыхільна да сэмінарыі. Без усялякіх прозьбаў з боку архіеп. Елеўферыя і выпаняўншага у тыя часы абавязкі рэктара сэмінарыі В. Багдановіча (пасьля сэнатар), ён адпусьціў на сэмінарыю запамогу, якая памагла яе адміністрацыі браць самую дзяшовую плату за навуку і зрабіць пры ёй інтэрнат. У самае унутранае жыцьці сэмінарыі урад ня умешываўся, праграмы навук аставаліся тыя самыя з тымі толькі пераменамі, якія вымагала жыцьцё. Навэт справаздача расхода самых сумаў, якія даваў урад, рабілася не перад урадам, а перад епахіяльнымі сабраньнямі, не была пазбаўлена сэмінарыя і правоў, якімі карысталася да вайны: асвабажджэньня вучняў ад военнай павінасьці, нават права прыёму да універсіцета. Адзіным фактычным начальствам сэмінарыі зьяўляўся яе епархіальны архірэй, архіепіскап Елеўфеоы, які сам, пакуль сэмінарыя не стала троху на ногі, як просты вучыцель выкладаў часьць багаслоўскіх прэдметаў у старых класах.

У восень 1922 года ў жыцьцю Сэмінарыі стварыліся вялікія перамены. У ноч пад Пакрава, па просьбе мітр. Георгія з Сінодам, арэставалі і вывязьлі ў Варшаву, а адтуль у Кракаў архіеп. Елеўферыя і там засадзілі яго ў каталіцкі Камядульскі манастыр. З ім разам вывязьлі і кіраўніка сэмінарыі В. Багдановіча, якога там выпусьцілі аднака на волю. У гэты час мітрап. Георгі і захапіў у сваю ўладу і Віленскую епархію і сэмінарыю. Адміністратарам епархіі назначаны быў архім. Ан-

тоні (Марценко), эпархіяльны Савет быў перароблены на Кансісторыю, а на чале сэмінарыі пастаўлены быў архім. Філіп (які пасьля прыняў унію). Сэмінарыя з гэтага дня стала на становішчы панствовай. У самай печатце яе замест крыжа пастаўлены быў арол, і з гэтага часу сталі ўвадзіцца ў ей розныя рэформы. Дасюль гэтыя рэформы юрыдычна не маглі правадзіцца за тое, што сэмінарыя існавала на падставе статуту, стверджанага вышэйшай расейскай уладай („Высочайше Утвержденный устав“), які зьмяніць было можна толькі ўставадаўчым парадкам. Калі-ж ад гэтага ўстава адмовілася сама царкоўная улада, сэмінарыі сталі прадметам адміністраціўнага праізволу міністэрства асьветы. Гэта ўжо добра зразумелі цяпер і самі тыя іерархі, каторыя зрабілі гэтую уступку, калі ім трэба было захапіць у свае рукі царкоўную ўладу: „духовная школа, как таковая, для церкви потеряна“, „с нею министерство исповѣданій производит какіе то опыты без всякаго плана и без согласія с духовными властями“, — так прызнаюцца яны самі ў сваім мэморыяле да сьвецкай улады, паданым ужо ў 1925 годзе.

Першая забота сьвецкай улады вядома скіравана была на апалячэньне сэмінарыі. У 1923 годзе 28 чэрвеня за № 4772 міністарства вызнань зьвярнулася да архіеп. Ѳеадосія з прапазыцыяй, дзе абецалася што ўрад „będzie wypłacał uposażenie odpowiedniej ilości dla profesorów Seminarjum“, але трэбаваў, каб „język państwowy w Seminarjum Wileńskiem stopniowo należy uwzględniać zasadniczo jako język państwowy“. Рэзолюцыя уладыкі Ѳеадосія (9-VII № 193) была: „Въ правленіе семинаріи“, а сэмінарыя на чале з архім. Філіпам не устаяла перад прыманкай „uposażeń“ і перевела сэмінарыю на „język państwowy“, на якім цяпер ня толькі выкладаецца навука і вядзецца ўся канцэлярыя, але навэт і ў унутраным прыватным жыцьці карыстаецца толькі гэтаю мовай.

Як да гэтага адносіцца праваслаўная грамадзянства і духавенства, лепш заўсё відаць з таго, што пасьля гэтай і іншых рэформ у сэмінарыі ўсе меншыцца і меншыцца лічба вучняў і ў гэтым годзе ў 1 кл. паступіла 5 ці 6 дзяцей, а ў год яе „разбурэньня“ (восень 1922 г.) у сэмінарыі вучылася каля 350 чалавек. Была беднасьць, не было цяперашняй абстаноўкі, але была любоў да роднай духоўнай школы.

У пачатку вучэбнага гетага году міністэрства распарадзілася увясьці ў сэмінарыю яшчэ новы статут, які быў у прошлым годзе прыняты ў сэмінарыі Крэменецкай. § 9-й гэтага статуту гаворыць аб тым, што 50 проц. прэдметаў павінна выкладацца на роднай мове. Але чамуш гэты § пры перасылцы яго ў Сэмінарыю выкрэсьлены? На якой падставе гэта зроблена, мы ня ведаем, але думаем, што як раз ёсьць час прывясьці гэты § да справы.

Беларускі нацыанальны Камітэт у Вільні ўжо зьвярнуў на гэта ўвагу і даручыў сэн. Багдановічу саставіць адпаведны мэмарыял, які мае падаць да сыноду аўтакефальнай Польскай царквы.

**В. Васілевіч.**

# „Pro domo sua“.
(А б с а б е).

У некалькіх польскіх і расейскіх газэтах былі зьмешчаны весткі аб тым, што нібы то ў Вільні ў хуткім часе мае выдавацца ў расейскай мове царкоўная часапіс пад назовайм „Бѣлорусская Жизнь“, ці „Царкоўная Жизнь“ і што рэдактарамі і выдаўцамі гэтай часапісі будуць тыя самыя асобы, якія выдаюць „Праваслаўную Беларусь“.

Ці будзе выдавацца ў Вільні такая часапісь, ці не, мы ня ведаем. Ведаем толькі, што ніхто з асобаў, прый-

маючых блізкае ўчасьце ў „Праваслаўнай Беларусі“ і ня думаў, а ні аб выдаваньні другой якой царкоўнай часапісі апрача той, якую выдае, ані аб учасьці ў такім выданьні. Аднак ў астатнія часы былі чуткі аб стараньнях некаторых кругоў выпусьціць у сьвет такую часапісь на час выбараў у Сойм з спэцыяльнай мэтай разьбіць магчымасьць агульнага беларускага блёка і блёка іх з іншымі меншасьцямі, на манер таго, як у час гарадзкіх выбараў у Вільні выходзіла газэта „Злоты“ з такой самай мэтай,—каб разьбіць беларуска-расейскі блёк. Мае рэдакцыя ведамасьці, што і наша афіцыяльная іерархія ўстрывожылася выхадам у сьвет „Праваслаўнай Беларусі“ і Варшаўская Мітраполія ўжо шукае ў Вільні рэдактара, каб аснаваць часопісь у працівавес саборна-кананічнаму напрамку „Прав. Беларусі“.

З гэтага відаць, што думкі аб царкоўна-грамадзянскай расейскай часапісі ў Вільні паўстаюць як раз сярод тых польскіх і расейскіх кругоў, якія варожа адносяцца да палітычнага і да царкоўнага напрамку „Праваслай Беларусі“. Адсюда відаць, што аб якім небудзь удзеле ў такіх выданьнях працаўнікоў „Прав. Беларусі“ ня можа быць і мовы. Няма нічога дзіўнаго і ў тым, што плёткі аб гэтым выйшлі з польскіх газэтаў.

Але вось што нам здаецца дзіўным, дык гэта тое, што гэтыя плёткі паўтарыла на сваіх старонках беларуская газэта „Наша Праца“, ды ня толькі паўтарыла (гэта ня грэх, бо абмыліцца можэ ўсякі), але зрабіла і нейкі да яго камэнтарый. Вось што яна надрукавала аб нас:

„Расейская газэта „За Свободу“, якая выходзіць у Варшаве, проста захвальвае нядаўна пачаўшую выходзіць часопісь „Праваслаўная Беларусь“ і яе кіраўнічых рэдактароў — сэн. В. Багдановіча і сьвяшч. Голада. Ніколі мы ад гэтай газэты яшчэ ня чулі пахвалы чаму небудзь беларускаму.

А тут — на-ж табе! Не дарма-ж кажуць — свой не заплача, дык скрывіцца!..

Газэты падаюць весткі, што пад кіраўніцтвам тых-жа асоб пачынае выходзіць і расейская часопісь — „Православная Жизнь“.

Усё адно да аднаго“!

Праўда, што за ўвесь малы час істнаваньня „Праваслаўнай Беларусі“ (тады выйшлы толькі 2 нумары) мы яшчэ не пачулі аб ей ні воднага водгука сярод часопісяў беларускіх. Мы і не жалімся на гэта: ня пішуць, бо „выжыдаюць“,—чакаюць, каб ясней выявіўся характар газэты. І добра робяць, бо гэта разумней, чым лезьці зводгукамі, ня разабраўшы справы, і з ведамасьцямі „из сомнітельных істочнікаў“, як гэта зрабіла „Наша Праца“.

Мы ня хочам аднак абвінавачываць яе ў гэтым намераньні, як тыя крыніцы, з якіх яна пачэрпнула сваі весткі, і гэты варожы тон, які непрыемна пачуўся з гэтых радкоў беларускай газэты, уважаем за прасты рэдакцыйны недагляд. З большай прыемнасьцю прачыталі-б мы ў беларускай газэце сур'ёзную крытыку таго, што ў нас пішацца, чым паўтарэньне закулісных інтрыг і плётак.

Пахваліла нас „За свободу!“ Ці помніць „Наша Праца“ як у свой час тая самая „За Свабоду“ хваліла „Грамаду“? Гэта яе воля і мы запярэчыць ей ня можам. Пахваліла нас нядаўна і польскаа газэта „Kurjer Wilenski“. Першая пахваліла за царкоўны напрамак, бо і сама ў асобе п. Тубярозава вядзе барадзьбу за свабоду і саборны строй царквы. Другая пахваліла за „wysoki poziom umysłowy“, але-ж і гэта ня „грэх“ проці беларускасьці“. Сягоньня хваляць, заўтра можа будуць лаяць. І пры тых і пры іншых варунках мы будзем стаяць на той самай пазыцыі, якую занялі ад пачатку.

РЭДАКЦЫЯ.

---

**Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.**

# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

## Абрашчэньне м. Еўлогія.

Мітрап. Еўлогі выпусьціў да сваей паствы „абрашчэньне" з прычыны трывогі і непакою, вызваных сярод паствы яго перапіскай з м. Сергіем.

У сваім абрашчэньні ён просіць сваю паству ня адносіцца варожа, а ні да асобы м. Сергія, ані да паднятай праз яго вялікай справы адраджэньня расейскай царквы і легальнай яе арганізацыі, ня даведаўшысь наперад, як да ўсяга гэтага аднясецца месцаблюсьціцель м. Пётр, усе іерархі-іспаведнікі і ўвесь праваслаўны народ.

Далей м. Еўлогій выясьняе сваё становішча да Расейскае царквы. Ён гаворыць, што з любві да Мацеры-царквы ён абецаў, што яго духавенства устрымаецца ад умешацельства ў палітыку, але гэта ня значы, што яно адмаўляецца ад малітвы з поваду тых, ці іншых выпадкаў у дзержаўным жыцьці, ад рэлігійнага асьвятленьня жыцьця наагул. Ён цьвердзіць, што яго погляды на царкоўнаю палітыку згаджаюцца з пасланьнем Салавецкіх іерархаў, катораая падкрэсьляе поўную разбежнасьць поглядаў і імкненьняў праўслаўнае рэлігіі і комуністычнае ідэалёгіі.

## Ліст пасла Сойму п. Любарскага да м. Дыанісія.

### Яго Блажэнству, Блажэнейшаму Дыанісію, мітрапаліту Праваслаўнае Царквы ў Полшчы.

I.

Як ведама Вам, Блажэнейшы Уладыка, маральны стан народу пасьля вайны страшэнна ўпаў. Падняць яго з бурлівага мора і ўвагнаць у калею нармальнага жыцьця ня так лёгка. Сама пэдагогіка гаворыць што лягчэй прыучыць дзяціну да нейкага добрага навыку, чым навярнуць запсутую. Духавенству парахвіяльнаму прыходзіцца вясьці гарачую плянавую барацьбу з гэтымі кепскімі маральнымі выкалеяньнямі населеньня. Вядзе яно яго, як умее, з царкоўнага амвону і ў школах. На вялікі жаль, навучаньне рэлігіі ў школах ня дасягае амаль што ніякіх разультатаў, дзякуючы таму, што дзеці ня ўмеюць чытаць у роднай мове. Аб навучаньні дзяцей у школах роднае мовы Мітрапалітальная Рада ў сваім часе паднімала голас, але бяз пасьпеху. Блажэнейшы Уладыка, я даведаўся, што на днях зьбіраецца сэсыя Сьвяшч. Сыноду; пастаўце гэтую актуальную справу на парадак дзенны сэсыі, няхай урад яшчэ раз пачуе голас у гэтай справе ўсеі вышэйшае царкоўнае іерархіі.

II.

Другой яшчэ больш актуальнай справай царкоўнаю сёньняшняга дня ёсьць увясьці царкоўны карабель у ціхаю прыстань з хваляў бурлівага мора для пачынкі. Ратунак патрэбны няадкладны і ўсестаронны.

Уладыка, Вам, як рулявому і старажу гэтага карабля разам са сваёю вышэйшаю царкоўнай камандай, але бяз каманды ніжайшае, радавой г. е., бяз ніжэйшага духавенства і міранаў, трудна, я скажу, нямагчыма ў цяперашні час вясьці паверанны Вам карабель у выжэй загаданую прыстань, а ўвясьці яго патрэбна, час ня цярпіць. Патрэбна Вам, Уладыка, неадкладна прызваць да сябе верную ня зрадлівую каманду, яка-б акружыла Вас і карабль і не дала-бы яму загінуць. Я, Уладыка, хачу Вам гэтым сказаць, што наспеў вышэйшы час паклікаць Мітрапалітальную Раду, але ня такім шляхам, як была пакліканa папярэдняя. Рада павінна складацца з 12 асоб, ня балей. Члены Рады павінны быць выбраны самымі веруючымі. Тагды адзін член быў-бы больш-менш прадстаўнікам 250 тысячаў праваслаўнага насяленьня. Прынцып нацыянальны павінен быць адкінуты. Такая рада выбраная самім народам і карыстаючаяся яго даверыям, была-б дзейсным прадстаўнікам народу і выразіцелям яго волі і жаданьяў. Самы факт склі-

каньня такой рады паралізаваў-бы працу рожных кар'ерыстаў, каторыя на царкоўных справах надта часта робяць добрыя інтарэсы, і паказаў-бы ўраду вялікае сцэмэнтаваньне праваслаўных. У гэтую думку, Уладыка, падсовываю Вам, каб і яе паставілі на парадак дзенны сэсыі Сіноду.

III.

У справе Прэасьвяшч. еп. Антонія няхай Сінод рашуча запратэстуе.

Прашу малітваў і благаславеньня Вашага Блажэнства.

Ваш пакорны паслушнік
Пасол **Любарскі.**

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаючы ліст пасла Любарскага, які вымагае ад вышэйшай іерархіі мінімума адвагі, і дамаганьня каторага,—наперад можна сказаць,—пазастануцца голасам крычачага ў пустыні, ставіць вялікае пытаньне аб адносінах іерархаў да сваей паствы. Да разбору гэтага пытаньня мы калісь зможам вярнуцца.

РЭДАКЦЫЯ.

## Будова царквы ў Баранавічах.

(Ад нашага карэспандэнта).

Ужо ідзе чацьверты год, як у Баранавічах будуецца новая праваслаўная царква. Былая царква згарэла ў 1921 г. Дагэтуль праваслаўны люд у Баранавічах змушаны ў дні сьвят цясьніцца ў малюсенькай царкоўцы, якая збудавана на магілках яшчэ перад вайной, а цяпер троху расшырана стараньнем царк. старасты п. Яроцкага. Новая царква будзе мураваная, досыць абшырная і прыгожая, каштаваць будзе больш як сто тысячаў злотых. Ведама, што будова ідзе ня хутка, бо зьнішчаныя вайной гаспадаркі мейсцовага праваслаўнага люду не даюць магчымасьці яму шмат ахвяровываць на царкву. Збіраемых грошаў не хапае і ў астатнія часы галоўнай крыніцай зьяўляюцца запамогі ад дзяржаўнага скарбу. Але і тут справа ідзе ня хутка. Толькі, дзякуючы энэргіі сэнатара А. Назарэўскага, які зьяўляецца старшыней будаўлянага камітэту, і гэтага камітэту, патроху ад скарбу вырываецца па 2, па 3, па 5 тысячаў, на якія да яшчэ на сборы з мястовага люду і будуецца патроху царква.

Гэты летні сэзон таксама не прайшоў дарма: у будоўлю ўложана за лета каля 120.000 цэглаў, царква збудавана да самай страхі, паднялася ўжо і званіца, толькі не ўдалося яшчэ накрыць, што прыйшлося адлажыць да вясны. 1-га кастрычніка (ст. ст.) на Пакрова ў нас царкоўнае сьвята. У гэты дзень пасьля абедні мала-кладбішчанскай царквы была арганізована працэсія на места будоўлі. П. Сэнатар Назарэўскі зьвярнуўся да прысутных з прамовай, у якой выразіў надзею, што ў буд. годзе ўдасца пакрыць царкву страхою і ў недалёкай будучыне выканчіць усю працу па адбудове царквы.

# Палітычная хроніка.

**— Сойм зноў адрочаны.** 3 лістападу дэкрэтам п. Прэзыдэнта быў скліканы Сойм на сталую бюджэтную сэсію. Паслы Сойму зьехаліся для таго, каб працаваць над бюджэтам, каб абгаварываць справу прыходаў і выдаткаў на наступны год. Але-ж якое было зьдзіўленьне Сойму, калі ў пачатку першага соймавага паседжаньня ўзяў голас віце-премьер Бартэль і агаласіў дэкрэт п. Прэзыдэнта аб закрыцьцю сэсыі Сойму да 28 лістапада г. ё. да часу, калі фактычна канчаюцца палнамоцтвы паслоў. Дэкрэт зрабіў вялікае ўражэньня на паслоў і выклікаў такоя-ж незадаваленьня ўрадам.

**— Саветы і Ліга Нацыяў.** У Жэневі ад камісара заграні́чных спраў ат-

рымана тэлеграма з паведамленьнем аб тым, што Саветы прыймуць удзел у адкрываючыхся 30 лістапада паседжаньнях сэсыі камісіі па разбраеньню.

У Маскве 9 лістапада Савэты сьвяткавалі 10 гадовую урачыстасьць істнаваньня іхнае ўлады. У Маскве на мітынгу Троцкі выступіў з прамовай, у якой заявіў, што цяперашнія ўрачыстасьці зьяўляюцца зусім няўмеснымі з повады цяжкага эканамічнага палажэньня Савецкага Саюза і шэрагу цяжкіх паражэньняў, якія панёс усесьветны пралетарыат за апошні год.

— **Адгалоскі польска-літоўскага канфлікту.** „Кур'ер Віленскі" паведамляе, што жалаба літвы на Польшчу, у сувязі з апошнімі арыштамі Літвіноў у Польшчы, будзе разглядацца Лігаю Нацыяў па першым паседжаньні, а да гэтага часу высланыя з Польшчы Літвіны будуць у Літве.

— **Кітайскія падзеі.** Карэспандэнт „Дэйлі Тэлеграф" телеграфуе з Пэкіну ў Лёндан аб павароце да актыўнай дзейнасьці гэнерала Ву-Пэй-Фу, які стварыў саюз с Чанг-Тсо-Лінам і Ханькоўскім гэнералам Чанг-Чай-Чынам для супольнае барацьбы проці нанкінскага ўраду. Апрацаваны ўжо дэтальны плян супольных ваенных дзеяньняў, згодна якіх Чанг-Тсо-Лін павінен заатакаваць правінцыю Шансі з поўначы, у той час як Шантунская армія распачне наступленьне з усходу. Адначасна Ву-Пэй-Фу і Чанг-Чай-Чын выступяць проці Шансі з паўднёвага боку.

Ня гледзячы на гэткія праекты, нанкінская армія ідзе наперад удоўж ракі Ян-Цэ-Кіянга ў кірунку на Ханькоў.

Што датычыць фронту проці гэн. Фэнга, дык як паведамляе „Дэйтшэ Алгемэйн Цэйтунг", армія Чанг-Тсо-Ліна захапіла сталіцу правінцыі Ханан места Кайфэнг. Армія гэн. Фэнга адступае, не выказваючы сур'ёснага спраціву.

Вось і ўсё, што можна сказаць аб кітайскіх падзеях. Як відаць з гэтага, дык вайна ідзе далейшым цягам.

## З беларускага жыцьця.

### Паслы Шакун і Шапель ня прыняты ў Беларускі Пасольскі Клюб

У пятніцу 4-га лістападу адбылося паседжаньне Беларускага Пасольскага Клюбу, на якім між іншымі справамі разглядалася справа заявы паслоў Шакуна і Шапеля аб прыняцьці іх у Беларускі Псольскі Клюб. У гэтай справе Клюб вынес наступную пастанову:

„Дзеля таго, што паслы Шакун і Шапель у працягу пяцёх гадоў зрабілі шмат шкоды Беларускаму народу, належачы да рожных польскіх, варожых да беларускіх спраў, арганізацыяў, а таксама і дзеля, таго што ўспомненыя паслы пасьля падачы ў Беларускі Клюб заявы аб прыняцьці іх у склад сяброў клюбу, ня выказалі ніякіх пачынаньняў у кірунку направы іх мінулай шкоднай працы, Бел. Пас. Клюб пастанавіў: паслоў Шакуна і Шапеля ў склад сяброў Клюбу ня прыняць".

Гэтую пастанову падпісалі: Старшыня Ф. Ярэміч, сябры—Ю. Сабалеўскі, В. Рагуля, Кс. А. Станкевіч, сэн. А. Назарэўскі і сэкратар сэн. В. Багдановіч.

——

Пасьля прыняцьця гэтае пастановы ў канцэлярыю Сойму было выслана паведаменьне наступнага зьместу:

Гэтым паведамляем, што п. паслы Шапель і Шакун не належаць да Беларускага пасольскага Клюбу.

### 10 угодкі беларускай сярэдняй школы.

1-га лістападу з прычыны 10-х угодкаў беларускае сярэдняе школы у салі Віленскае Беларускае гімназіі адбылася урачыстае сьвяткаваньне. З дакладам аб гісторыі сярэдняе школы выступіў п. Трэпка, каторы ў сваім рэфэрацe ўзнавіў гісторыю адкрыцьця першай Беларускай гімназыі ў Слуцку і ў другіх мясцох. Пасьля гэтага былі прачытаны прыватныя тэлеграмы з Дзьвінска,

Рыгі і другіх мейсцаў. Плтрэбна адната- ваць выступленьне п. Астроўскай з прывітаньнем ад свайго мужа, Дырэк- тара гімназіі, які, як ведама, знахо- дзіцца у вастрозе на Лукішках у спра- ве „Грамады". З прамовай, пасьвячонай свайму дырэктару, выступіў адзін ву- чань гімназіі. З прыгожай прамовай выступаў гр. Грышкевіч.

Другая частка сьвяткаваньня скла- далась з канцэртнага аддзелу. Даволі ўдачна выступаў беларускі хор пад кіраваньнем гр. Шырмы, каторы выпаў- ніў шмат новых беларускіх песьняў. Агулам трэба адзначыць, што сьятка- ваньне прайшла ўрачыста пры перапоў- ненай публікай салі.

### Справа Грамады.

Ужо некалькі разоў польская прэса паведамляла аб сканчэньні сьледства ў гэтай справе, але польскае „Слова" па- ведамляе, што запраўды быццам толькі цяпер яно даведзена да канца. Паводле гэтае весткі, абвінавачаных мае быць 490 асоб, з якіх 110 віленскіх. Сьведкаў мае быць каля 1000 асоб.

### Звольнены з вастрогу.

Гр. Шнаркевіч, сэкратар галоўнае ўправы Т-ва Беларускае школы, які быў арыштаваны ў зьвязку з справай „Грамады" і прасядзеў на Лукішках $9^1/_2$ месяцаў, звольняны пад залог у 500 зл.

### Беларуская „радыкальная" партыя

Гэтак мае называцца новая Бела- руская партыя, каторую ўзяўся збуда- ваць п. Умястоўскі. Для характэрыстыкі яе радыкалізму даволі саслацца на за- головак „Курьера Віленскага", аб з'езь- дзе, на каторым мела радзіцца новая партыя: Успамянёны загалавак характэ- рызуе яго „палянафільскім з'ездам бе- ларусаў". Дык цяпер кожнаму Бела- русу ведама, які то будзе „радыкалізм".

### Зьезд Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі.

6-га лістападу ў памешканьні Бела- рускага Інстыт. Гаспад. і Культ. ад- быўся зьезд БХД. Дэлегатаў з правін- цыі было 129 асоб, апрача Віленскіх сяброў гэтае партыі.

У прамовах сяброў зьезду часта усплывала думка аб неабходнасьці аб'ед- наньня усіх беларускіх групаў у часе выбараў.

З прывітаньнем ад Праваслаўнага Беларуск. Дэмокр. Аб'еднаньня высту- піў сэнатар В. Багдановіч.

Зьезд прадаўжаўся 2 дні.

### Рэвізія ў украінскіх паслоў.

5-га лістапада ў памешканьні укра- інскіх паслоў Підгірскага, Казіцкага, Дмітріюка і сэн. Карпінскага паліцыя зрабіла рэвізыю і нібы та знайшла ка- муністычныя адозвы. Аб рэвізыі быў паведамлены маршалак Сойму п. Ратай. Рэвізыя вызвала абурэньне ня толькі сярод меншасьцяў, але-ж і сярод поль- скага грамадзянства.

### Арышты ў Пружаншчыне.

У пружаншчыне гэтымі днямі ад- быліся арышты. Арытштаваны Ул. Гмыр і другія і пасаджаны ў вастрог у Віль- ні на Лукішках.

Пасол Ярэміч ў гэтай справе рабіў інтэрвэнцыю, з мэтай звальненьня арыш- таваных, якія, як выясьнілася, арышта- ваны за прыналежнасьць да ліквідава- най „Грамады".

Сярод арыштаваных ёсьць асобы, якія яшчэ перад ліквідацыяй вышлі з Грамады і ў далейшым оічога з яе ак- цыяй ня мелі.

# ДА ГР. ПАДПІШЧЫКАЎ.

Рэдакцыя просіць усіх, спаўчуючых нашай часопісі, прысылаць карэспандэнцыі аб царкоўным, палітычным, грамадзкім і культурным жыцьці, аб незаконных чынах урадаў, а такжа наагул аб жыцьці нашых мясцовасьцяў.

У Рэдакцыю паступаюць ведамасьці аб тым, што шмат нашых чытачоў ня атрымалі № 3-га нашай часопісі, у якім зьмешчана была праграма «Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'еднаньня». Рэдакцыя просіць чытачоў аб каждым неатрыманьні паведамляць яе, каб можна была выправіць памылкі пошты.

З наступнага № часопісі будзе зьмешчаны адзел: „Паштовая скрынка", „Гаспадарчы адзел" і „Юрыдычныя парады".

**Рэдакцыя.**



## ЗЬМЕСТ.




Рэдактар-выдавец: **Л. Голад.** Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.